www.nv-online.info

№ 56 (3797)

19 ліпеня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На простар, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Чым больш людзей будзе чытаць “Народную Волю”, тым хутчэй Беларусь стане па-сапраўднаму дэмакратычнай, незалежнай краінай. Да 27 ліпеня ва ўсіх паштовых аддзяленнях прымаецца падпіска на “Народную Волю” на любы тэрмін да канца года.*

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

**БЕЛАРУСЬ—ЕС**

## *Захоўваецца атмасфера рэпрэсій і запалохвання*

Дакладчык дэлегацыі Еўрапарламента па Беларусі **Юстас Палецкіс** падрыхтаваў справаздачу для Савета ЕС, Еўракамісіі і Службы знешніх дзеянняў.

У дакумента ёсць перадгісторыя. У першым чытанні, якое было прадстаўлена ў канцы мая, адзначалася паляпшэнне сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі ў 2012 годзе.

Аднак у выніковым варыянце даклада гаворыцца: “Нягледзячы на змяншэнне ў абсалютных лічбах палітычна матываваных арыштаў (паводле даных праваабарончага цэнтра “Вясна”, з 868 у 2011 годзе да 235 у 2012-м), захоўваецца атмасфера рэпрэсій і запалохвання”.

У дакуменце таксама зазначаецца, што маючы адбыцца ў лістападзе ў Вільнюсе саміт “Усходняга партнёрства” “*можа стаць важнай магчымасцю для паляпшэння адносін паміж Беларуссю і ЕС пры ўмове, што беларускія ўлады вызваляць і рэабілітуюць усіх палітзняволеных”,* а ў палітычны дыялог паміж Мінскам і Бруселем, які магчымы пры выкананні вышэйзгаданай умовы, павінны быць уцягнуты прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці і апазіцыі Беларусі.

У сваю чаргу апазіцыі, як зазначаецца ў дакладзе, неабходна працаваць над стварэннем агульнай стратэгіі і плана дзеянняў. Напрыклад, над агульным спісам кандыдатаў у дэпутаты на мясцовых выбарах 2014 года, агульнай палітычнай праграмай, вылучэннем адзінага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года.

**НАДВОР’Е**

## *У выхадныя пахаладае*

*Сёння яшчэ захаваецца адносна цёплае надвор’е. Днём на большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, навальніцы, па поўначы ў асобных раёнах моцныя лівні. Тэмпература паветра максімальная днём +20...+26°С, па поўдні да +28°С.*

У суботу і нядзелю характар надвор’я зменіцца, стане прыкметна халадней. 20—21 ліпеня, па словах сіноптыкаў, надвор’е ў Беларусі абумовіць халодная няўстойлівая тылавая частка цыклону, што размяшчаецца над Цэнтральным раёнам Еўрапейскай тэрыторыі Расіі. У многіх раёнах Беларусі пройдуць дажджы, месцамі магчымы навальніцы. Днём у асобных раёнах чакаецца моцны парывісты вецер. Тэмпература паветра ўначы +8...+14°С, 20 ліпеня па паўднёвым усходзе да +16°С, днём +14...+20°С, па паўднёвым захадзе да +22°С.

На пачатку наступнага тыдня халаднаватае надвор’е застанецца.



**ДАЛЁКАЕ—БЛІЗКАЕ**

*Ганна СУРМАЧ:*

## «Першы з’езд беларусаў свету нарадзіў надзею на лепшую Беларусь»

***Да свайго абрання старшынёй Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” Ганна Сурмач 23 гады працавала ў сістэме дзяржаўных архіваў Беларусі. Да Першага з’езда беларусаў свету яна 10 гадоў узначальвала Дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва. Аднак дзеля грамадскіх спраў мусіла пакінуць любімую працу і паспяховую кар’еру. Дэлегаты таго з’езда ацанілі намаганні спадарыні Ганны і нечакана для яе самой вылучылі яе кандыдатуру на пасаду старшыні. Чатыры гады яна працавала на гэтай адказнай пасадзе, але неўзабаве пасля Другога з’езда вымушана была пакінуць краіну. Зараз Ганна Сурмач жыве ў ЗША, дзе працягвае займацца грамадскімі справамі — цяпер ужо на пасадзе старшыні Галоўнай управы Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА), рэдагуе таксама газету “Беларус”.***

***У сваім інтэрв’ю яна прыгадала падрабязнасці і невядомыя факты, датычныя гістарычнай падзеі — Першага з’езда беларусаў свету, што прайшоў у ліпені 1993 года ў Мінскім оперным тэатры.***

**— Ці складана было сабраць дэлегатаў на першы з’езд?**

— ЗБС “Бацькаўшчына” было створана 10 верасня 1990 года на ўстаноўчай канферэнцыі ў Мінску. Ідэя належыць беларускай інтэлігенцыі, арганізацыйную ролю ўзяў на сябе пісьменнік Яўген Лецка, які і быў абраны першым кіраўніком арганізацыі. Ужо ў другой палове 1980-х гадоў пачаліся кантакты з беларускім замежжам, ужо нікога не праследавалі за лісты з Амерыкі ці Англіі. Сёй-той пабываў ужо на Захадзе, сустракаліся з суродзічамі, бачылі, што тыя гавораць па-беларуску, шануюць сваю культуру, захоўваюць яе ў выгнанні. Напрыканцы 1980-х Беларусь наведалі Данчык і танцавальны калектыў з Нью-Ёрка “Васілёк”. Пачалося сапраўднае адкрыццё беларускай Амерыкі.

Тады пад беларускім замежжам пераважна разумелася эміграцыя ў заходнім свеце. Аднак распад савецкай імперыі і стварэнне на яе руінах новых незалежных дзяржаў нечакана выявілі новую рэальнасць — існаванне беларускай эміграцыі і на Усходзе. Савецкі Саюз быў адзіным, і беларусы на ягоных прасторах не пачувалі сябе эмігрантамі. Апынуўшыся ў новых краінах, нашы суродзічы адчулі патрэбу ў самавызначэнні і гуртаванні. Для ЗБС адкрылася шырокае поле дзейнасці ў блізкім замежжы, як тады мы ўмоўна пачалі называць былыя рэгіёны СССР.

На Усходзе не было беларускіх суполак, у савецкія часы нікому ў галаву нават не прыйшло б іх ствараць. Таму на першым этапе дзейнасці ЗБС большая ўвага надавалася менавіта блізкаму замежжу, дзе трэба было дапамагчы беларусам арганізаваць сваё нацыянальнае жыццё і наладзіць кантакты з бацькаўшчынай. У снежні 1992 года ЗБС склікала ў Мінску Першы сход беларусаў блізкага замежжа. Гэта было першае спатканне на Радзіме беларускай дыяспары, якое мела надзвычай важнае значэнне для яе далейшай кансалідацыі. На Сходзе абмяркоўваліся балючыя пытанні: дапамога землякам у зонах ваенных і міжнацыянальных канфліктаў на Каўказе, у Сярэдняй Азіі, у Прыднястроўі, вяртанне на Бацькаўшчыну высокапрафесійных кадраў, якія былі засланы на працу ў розныя куткі Савецкага Саюза і пасля яго развалу засталіся без працы, вяртанне дамоў беларускіх вайскоўцаў, дапамога ў стварэнні беларускіх суполак і наладжванні іх дзейнасці, усталяванне пастаянных кантактаў з радзімай і шмат іншых. Удзельнікі Сходу пабачылі, што яны не застаюцца адзін на адзін са сваімі праблемамі, што на бацькаўшчыне ёсць асобная арганізацыя, ЗБС “Бацькаўшчына”, якая бярэцца дапамагаць ім. У той час і дзяржаўныя структуры Беларусі выказвалі намер падтрымліваць замежных суродзічаў і бралі ўдзел у працы Сходу. Такое адбывалася ўпершыню ў гісторыі Беларусі і давала надзею на будучыню. Форум атрымаўся плённым і своечасовым. Пасля яго шмат дзе на тэрыторыях былога СССР паўсталі беларускія арганізацыі, многія з якіх існуюць і да сёння. Падчас падрыхтоўкі Сходу мы рознымі шляхамі скантакталіся з беларусамі амаль ва ўсіх рэгіёнах блізкага замежжа і далей падтрымлівалі іх.

*(Заканчэнне. на 4-й стар.)*

**БЛІЦ**

*Зайдзіце ў любы сталічны супермаркет... Наведайце Камароўскі рынак... Ад цэн вочы на лоб вылазяць. І растуць яны, здаецца, не па днях, а па гадзінах.*

*А зарплаты? Пра дробныя прадпрыемствы і гаварыць няма чаго — на большасці з іх заробкі ў людзей мізэрныя. А на заводах-гігантах?*

*Карэспандэнт “Народнай Волі” правяла нямала часу ля прахадной* ***Мінскага трактарнага завода*** *і падчас размовы з яго работнікамі задавала адно і тое ж пытанне:*

# Вы задаволены сваёй зарплатай?

### *З 38 чалавек толькі двое пагадзіліся назваць свае прозвішчы, з іх толькі адзін — сфатаграфавацца для газеты.*



**Аляксей з механічнага цэха №1:**

— Ну, у прынцыпе, задавальняе заробак. У мяне ўсё ідзе на харчаванне, але магу сабе дазволіць нешта для рыбалкі. А што да бытавой тэхнікі, то на гэта, канешне, не застаецца. Мэбля ў мяне старая, але на мой век хопіць. Так што ўсё нармальна.

**Канстанцін з цэха №91 (спецыялізаванага):**

— Калі б я зарабляў 1000 долараў, то яшчэ можна было б жыць больш-менш, а так у мяне атрымліваецца 400—450 долараў. Толькі на харчаванне і застаецца. Дык гэта я яшчэ жыву з жонкай і дачкой у сваёй кватэры, а тым, каму даводзіцца здымаць жыллё, зусім не смешна.

**Анатоль Карабко, начальнік праектнага бюро аддзела “Металург”:**

— Заробку заўсёды не хапае нікому. У мяне жонка — пенсіянерка, але працуе, дачка таксама працуе. У нас ёсць машына, участак зямлі. З’ездзіць у адпачынак, канешне, хацелася б, але пакуль не атрымліваецца. Хаця ідэя добрая.

**Уладзімір з ліцейнага цэха:**

— Нам жа наш галоўны кіраўнік абяцаў заробак у 500 баксаў, але гэта было даўно. А як сёння пражыць на такія грошы? Не, з голаду не памрэш. Але ці паўнавартаснае такое жыццё? Гэта ўжо нагадвае становішча раба — можаш мець месца, дзе жыць, ежу, нейкі няхітры посуд і мінімальную маёмасць. Дык, здаецца ж, рабства даўно адмянілі. Ці я не маю рацыю?

**Алена, працуе на канвееры:**

— 4 мільёны — гэта заробак?! Думаеце лёгка працаваць 8 гадзін з 20-хвілінным перапынкам? І што гэта за заробак? Што можна набыць на тыя грошы? Якая Камароўка?! Мне ў галаву нават не прыйдзе там набыць мяса ці рыбу. З такімі цэнамі?! У адпачынак я ніколі не ездзіла. Пуцёўку набыць таксама грошай няма. Ай, няма нават што і казаць...

**Уладзімір з ліцейкі:**

— У нас у кантракце напісана, што нам гарантаваны годны заробак. Так і напісана: каб хапала табе і тваёй сям’і. А на практыцы гэта выконваецца?

**Наталля (не пажадала сказаць, дзе працуе):**

— Можа, кагосьці і задавальняе заробак, на які можна купіць толькі харчы. А мне, напрыклад, хацелася б заняцца сваім здароўем і рамонт зрабіць. А на гэта грошай няма. Каб паехаць кудысьці ў адпачынак, трэба эканоміць і назапашваць грошы. Раней на заробак можна было значна больш набыць. Была нейкая павага да прафесіі, а цяпер... У мяне заробак прыкладна 600 долараў.

**Раман з механічнага №1:**

— Я адзенне сабе набываю ў сэканд-хэндзе. Вось шлёпанцы другі год нашу. З харчэй набываю самае таннае і неабходнае. Нейкую там дарагую рыбку ці яшчэ нешта такое забыў, калі купляў. Інакш не атрымліваецца. Да таго ж плачу 350 долараў за кватэру. А што рабіць? Перспектывы ніякай, і гэта мяне яшчэ больш засмучае. Жаніцца? А што далей? Магу я сабе дазволіць дзяцей, магу я ім забяспечыць нармальнае жыццё? Галоўнае, што і пайсці асабліва няма куды. Паўсюль такая фігня. На іншых заводах нават горшая сітуацыя. Людзі гарбацяцца за грошы. А нам ужо нават не абяцаюць падвышэнне заробкаў, кажуць, што на нашы месцы прыйдуць новыя, якія будуць лепш працаваць за тыя ж грошы. Гэта цынічны шантаж. За людзей нас даўно ўжо не лічаць.

**Уладзімір, пенсіянер з ліцейкі:**

— У нас ураўнілаўка. Усе прыкладна аднолькава атрымліваюць. Раней у нашым цэху шмат плацілі. А цяпер? Мы ж здароўе сваё губляем. А дзеля чаго? Каб было што есці і ўсё? Крыўдна гэта, але нічога ж не зробіш. Каб больш атрымліваць, трэба тут застацца жыць і толькі гарбаціцца і гарбаціцца... Трактарамі нашымі ўсё вунь застаўлена. Калі б іх сталі пакупаць, то, можа, і нам было б лягчэй. Кажуць, што гэта ўсё палітыка, што нас не любяць. А можа, не ў нас справа? Можа, трэба неяк кіраваць краінай інакш, каб не нажываць сабе ворагаў з усіх бакоў? А вы кажаце: “Назавіце сваё прозвішча...” Я ж не вар’ят. Ніхто не стане прадстаўляцца, усе ж баяцца згубіць нават і гэтую работу.

**Антон з механічнага цэха:**

— Трэба хаця б 9 мільёнаў атрымліваць. Тут нават нічога не залежыць ад таго, як працуеш, а ўсё залежыць ад таго, як плацяць. А плацяць усё роўна мала.

**Яўген Кудзіновіч, грузчык:**



— Я працую грузчыкам на палову стаўкі, бо непаўнагадовы. Атрымліваю пару соцень (у пераліку на долары). Работа да 16 гадзін. А тыя, хто на поўную стаўку, працуюць да 18.00. Не сядзець жа мне дома і жыць за маміны грошы. Мама мяне не стала б пілаваць за гэта і карміла б. Але я сам так вырашыў.

**Святлана з ліцейнага цэха №1:**

— Я ў інтэрнаце жыву з дачкой. На Камароўку не хаджу. Усё набываю ў краме і шукаю, каб было таннае. Мяса даўно не набывала. Куплю фарш танны, туды дабаўлю рыс ці батон. Вось і атрымаецца ў мяне тады больш катлет. Дачцэ будзе 17 гадоў. Каб сабраць яе ў школу, дык трэба не менш за 5 мільёнаў патраціць. Сабе я набываю нейкія самыя танныя маечкі ў “сэкандзе”. Хочацца нешта ж дзяўчынцы набыць больш-менш прыстойнае, а то будуць з яе смяяцца, а яна будзе пакутаваць ад гэтай галечы. Вось такое невясёлае жыццё. А тое, што мы не адны такія, мяне асабліва не суцяшае.

**Людміла, пенсіянерка з механічнага №1:**

— Мяне заробак зусім не задавальняе. У нашай кватэры 11 чалавек. Дзеці ажаніліся, і ўсе без кватэр. Што рабіць? У нас на вёсцы ад вясны да позняй восені агарод... Усё вырошчваем — і бульбу, і гуркі, і цыбулю, і часнок, і буракі... Нічога, ужо неяк прызвычаіліся да гэтага. Так і выжываем. Што сваімі рукамі вырасцілі, то і... Нам толькі часам сала ды хлеб трэба набываць. Які адпачынак?! Канешне, хацелася б паспрабаваць хоць раз тую Турцыю ці Егіпет, дзе ўсё ўключана *(смяецца).* Але, відаць, нічога не папішаш. За нашы заробкі не разгонішся.

**Аляксандр, з ліцейкі:**

— Я незадаволены сваім заробкам. Што я магу сабе дазволіць за гэтыя грошы? Здымаю пакой, а іншыя грошы ў мяне ідуць... Вось я адмовіўся вам прадставіцца, але не таму, што баюся звальнення, а, калі шчыра, з-за дзяўчыны. Пазнаёміўся з прыгожай дзяўчынай. Яна супер якая! Ну і, відаць, з заможнай сям’і, бо даволі модна апранутая, шмоткі не танныя. А я хто? Дык я два месяцы збіраў грошы, каб павесці яе ў дарагі начны клуб... Ну, закахаўся, карацей, па самыя вушы. Яна мне званіла ўжо некалькі разоў, а я і сам так хачу з ёй сустрэцца, што сіл ніякіх няма. Але ж кажу, што ў ад’ездзе ці вельмі шмат працы, а сам адкладваю грошы на новую сустрэчу. Яна ж думае, што я нейкі там камерсант... Не хачу, каб яна даведалася, што я на Трактарным працую. Непрыгожа, канешне, хлусіць. Нават не разумею, з чаго гэта я вам раптам усё расказаў.

***

*На адлегласці некалькіх метраў ад прахадной на каменным парапеце з’явіліся імправізаваныя столікі са спіртным і няхітрай закускай. Двое маладых міліцыянераў ляніва здалёк назіралі за тым, што там адбываецца. Калі б не будны дзень, можна, было б падумаць, што гэта першамайская маёўка, своеасаблівы пікнік. Праходжу побач і чую:*

— Таварыш журналіст, можа, маханёце з намі чарачку за здароўе?

**— Ды не, дзякуй. За рулём.**

— А гэта зараз самая звычайная адмазка. Можа, кампанія наша не даспадобы?

**— Ды што вы? Нармальная кампанія. А вы не баіцеся, што, міліцыянеры вас заграбуць за ўжыванне алкаголю?**

— А хто тут ужывае? Няхай дакажуць. Ды мы ж рабочы клас, мы што, не маем права пасля работы?..

**— Такое паняцце, як рабочы гонар, яшчэ не страчана?**

— Ой, не смяшыце! Хто такія сёння рабочыя? Ці мае аўтарытэт сёння рабочы клас? Вось раней былі часы, калі яшчэ мой бацька працаваў. Тады ж рабочы меў і санаторый, і прафілакторый, і кватэру давалі, і абшчагу... А прэміі, а 13-я, а 14-я, а да святаў розных падкідвалі!.. А цяпер? О-о, а вы кажаце...

*На тым і развіталіся. Заўважыла, што падчас перазменкі каля прахадной гандляркі прапаноўвалі свае няхітрыя тавары — нейкія тапкі, ручнікі, посуд, халаты... Як толькі маё апытанне скончылася, завяршылася і іх работа. Толькі вялікія паласатыя сумкі нагадвалі, што нядаўна іх змесціва было на прылаўку, то бок на асфальце... Усё сціхла. Нават фантан сціх у чаканні новай перазменкі, і толькі макет трактара павольна круціўся на даху будынка, нагадваючы пра слаўнае мінулае некалі брэндавага завода.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

**ПРАГНОЗ**

## *Да кастрычніка долар асабліва не разгоніцца*

*Паводле прагнозаў экспертаў, да канца верасня 2013 года афіцыйны курс долара ЗША ў Беларусі можа дасягнуць 9100 рублёў.*

Такія ацэнкі прыводзяцца ў кансэнсус-прагнозе, які па выніках апытання экспертаў падрыхтавала расійскае агенцтва Cbonds, што спецыялізуецца на вывучэнні фінансавых рынкаў. На думку ж экспертаў беларускага “БелСвісБанка”, ацэнкі якіх прыведзены ў кансэнсус-прагнозе, да канца III квартала афіцыйны курс долара складзе 8820 рублёў.

Разам з тым іншыя ўдзельнікі апытання прагназуюць, што курс будзе крыху вышэйшы. Так, прадстаўнікі “ВестБізнесГруп” (прафудзельнік беларускага рынку каштоўных папер) мяркуюць, што афіцыйны курс долара да канца верасня складзе 8950 рублёў. Эксперты Cbonds чакаюць, што афіцыйны курс долара складзе 9000 рублёў.

Аналітыкі афіцыйнага партнёра Альпары ў Мінску прагназуюць, што ў канцы III квартала афіцыйны курс долара складзе 9100 рублёў.

**ВНЕ ИГРЫ**

## Старые грабли

На этой неделе министр спорта и туризма Беларуси **Александр Шамко** заговорил о медальных планах наших олимпийцев на зимнюю Олимпиаду в Сочи.

*“Если все получится, то пять медалей — это объективные ожидания*, — сказал чиновник. — *Надо понимать, что к атлетам всегда завышенные требования, от них ждут многого. Всем хочется увидеть белорусский флаг во время церемонии награждения, услышать гимн. У нас должна вырабатываться психология победителя. Сегодня все понимают ответственность за средства, которые вкладывает государство в подготовку спортсменов. Их результат — престиж нашей страны. А планы берутся не из головы. Защищая аттестацию, тренеры прогнозируют определенный результат. Они сами устанавливают планку”.*

И уж сколько раз твердили миру, то бишь нашим спортивным функционерам, что не нужны олимпийцам никакие медальные планы. Человек — не робот, а спортсмены сами знают, что им надо. Серебряный призер Игр Александра Герасименя и вовсе назвала эти планы глупостью. Ан нет! Без этого чиновники не могут. Как калькуляторы, они подсчитывают еще не существующие медали, строят планы на Олимпиады, чемпионаты и пятилетки. Живут в каком-то своем мире грез и фантазий. И так из четырехлетия в четырехлетие.

А как же иначе?! Есть на кого равняться. Вот, например, перед Играми-2012 в Лондоне белорусским спортсменам поставили жесткую задачу — завоевать 25 медалей. При этом, как подчеркнул Александр Лукашенко во время проводов олимпийцев, пять наград непременно должны быть высшего достоинства.

*“Главное — не участие, а победа*, — напутствовал официальный лидер. — *Вот вам мой наказ от имени белорусского народа”*.

Что из того наказа получилось, всем известно — полный провал олимпийской сборной на Олимпиаде. В Лондоне белорусы взяли 13 медалей, что стало худшим результатом за всю историю нашего государства. К тому же после допингового скандала пришлось вернуть золотую медаль и Надежде Остапчук. И никакой *“наказ от имени белорусского народа”* не помог.

А уж как любят топать ногами чиновники после неудачных выступлений своих “подопечных”!

*“По отдельным спортсменам имеется неподтвержденная информация о возможном саботаже соревнований, когда атлеты сознательно не показывали высокие результаты. Причины этого сейчас устанавливаются*, — заявлял после Олимпиады-2012 бывший министр спорта Олег Качан. — *Мы же порой видели имитацию борьбы. Взять того же толкателя ядра Андрея Михневича, который даже не попал в финал. Когда мы пытались выяснить, что с ним случилось, он* сказал, что спина во время движения хрустнула. Мне все равно: хрустнула не хрустнула, должен был толкнуть”.

*“Метатели были словно напуганы,* — вторил ему экс-помощник президента по делам физкультуры и спорта Игорь Заичков. — *Не метали, а имитировали метание, и где делись их лучшие результаты в сезоне? Но что показательно, что уже через неделю после Олимпиады уставшие, по идее, на Играх, рванули на коммерческие старты, на “Бриллиантовую лигу” зашабашить 100 или 200 долларов. Причем многие показали более высокие результаты, чем на Олимпийских играх”.*

Здесь вообще без комментариев. Как заявлял киногерой одной известной кинокомедии: “Когда вы говорите, Иван Васильевич, впечатление такое, что вы бредите”.

Впрочем, сегодня, наверное, и у Заичкова, и у Качана интерес к медальным планам нашей сборной ровно такой, как у моей 83-летней соседки к футбольному клубу “Гомельжелдортранс”. Не до этого. Бывшие министр и помощник президента проходят свидетелями по уголовному делу с неприятным душком.

Что же касается новых прогнозов на медали, то, повторюсь, лучше бы этих планов вообще не было. Спортсменам всегда спокойнее готовиться без нравоучений.



А спортивные чиновники, которые стараются превратить спортивные игры в битву за урожай, лучше бы еще раз проанализировали опыт своих предшественников. Очень, замечу вам, печальный опыт.

Так зачем наступать на старые грабли?

**Алесь СИВЫЙ.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# Фокусы с Лораном Ариничем

***История с безуспешными попытками вернуть в Беларусь экс-гендиректора “Пинскдрева” 77-летнего Лорана Аринича напоминает дешевое цирковое представление. Хотя представители Генпрокуратуры важно надувают щеки и рассказывают о своих непосильных трудах и бурной деятельности в этом направлении.***



*В конце февраля 2011 года Генпрокуратура Беларуси возбудила уголовное дело в отношении Лорана Аринича по факту пожара на фабрике “Пинскдрев ДСП”, где погибли 14 человек, более 20 получили травмы.*

До недавнего времени всем было известно, что Лоран Аринич находится в Польше. Он уехал туда два года назад якобы на лечение, но в конце концов решил не возвращаться на родину. Тем более что к тому времени ему заочно предъявили обвинения в служебной халатности. Самое большое наказание по этой статье — лишение свободы на срок до 5 лет, а учитывая почтенный возраст Аринича — это немало.

Когда к Ариничу в его польский дом нагрянула полиция, он, как сообщали информагентства, был немало ***удивлен,*** но сопротивляться аресту не стал. Немного необычная реакция для человека, которого на родине ждут не дождутся следователи и который знает, что его разыскивает Интерпол, не правда ли?

Через некоторое время появилась новость, что польский суд оставил Аринича под надзором полиции и запретил ему покидать территорию Польши. *“После этого там, видимо, посчитали, что это слишком строгая мера, и надзор полиции был заменен на домашний арест под залог 2000 злотых”,* — рассказывали журналистам наши прокурорские работники.

С тех пор многие думали, что Аринич до сих пор живет в арендованном доме под Радомом и за забор носа не кажет!

А он спокойно поехал в Италию. Снова подлечиться или просто отдохнуть — точно не известно. Но поехал, видимо, не боясь санкций за то, что покинул территорию Польши. И когда в Беларуси растиражировали новость о задержании экс-гендиректора “Пинскдрева”, его представитель со ссылкой на родственников сказал “Народной Воле”: мол, да все там нормально, проблем нет, никто его выдавать не собирается.

На чем основаны спокойствие и уверенность?

Может, Лоран Аринич уже легализовался в Евросоюзе, имеет вид на жительство в одной из европейских стран и на 99 процентов уверен в своей безопасности?

Если так, то как объяснить слова и действия представителей Генпрокуратуры? Зачем они рассказывают сказки про экстрадицию? Потому что надежда умирает последней и у них она еще жива?..

Стоит заметить, что Лоран Степанович убыл на лечение в Польшу не без ведома представителей прокуратуры. Еще в июле 2011 года экс-генпрокурор Григорий Василевич на одной из пресс-конференций рассказывал, что Аринич *“в розыск не объявлялся, ибо пока нет сведений, что он уклоняется от явки по вызову следственных органов”.* А меньше чем через месяц его подали в международный розыск.

Возникает ряд почти риторических вопросов.

А если бы на месте Аринича под аналогичной уголовной статьей оказался какой-нибудь оппозиционер, его отпустили бы под подписку о невыезде, учли бы прежние заслуги перед родиной?

Почему Аринича, к которому у следователей, судя по всему, накопилось немало вопросов, не внесли в базу невыездных? Алиментщиков за границу не выпускают, а тут люди погибли, подчиненные Аринича сроки немаленькие получили...

Почему ему разрешили поехать лечиться в Польшу? Не нашлось белорусских специалистов, готовых оказать помощь? В Беларуси Ариничу отказались проводить какую-то суперсложную манипуляцию? Лукашенко вон недавно на “Славянском базаре” даже звездам российской эстрады рекламировал наших докторов, у нас оперировался экс-глава Моссада, к нам едут тысячи иностранцев на пересадку органов, пластику, пломбы и так далее. А Аринич за здоровьем поехал в Польшу. И как уехал, так сразу искать стали...

И просто любопытно: а хотя бы объяснительную взяли с того следователя или прокурора, который на какой-то бумажке наверняка поставил подпись о том, что он не против оздоровительного тура Аринича в Польшу?..

Все время, что Аринич находится за границей, представители Генпрокуратуры и Следственного комитета твердили, что *“решается вопрос об экстрадиции Аринича в Беларусь”.* Вначале ждали ответа об экстрадиции из Польши. Потом направили документы в Италию. С которой, как оказалось, у Беларуси нет соглашения *“о взаимной выдаче лиц”.* И если вначале высокие прокурорские чины бодро комментировали возможную экстрадицию Аринича, то сейчас вяло и невнятно говорят о том, что, мол, *“итальянская полиция не должна уведомлять, что отпустила Аринича”, “пока не ясно, на каких условиях его отпустили”,* Интерпол все равно все отслеживает и так далее. Интерпол, конечно, отслеживает. И периодически задерживает тех, кто объявлен в розыск. Например, не так давно сообщалось о задержании в Штатах политика Алеся Михалевича, который получил убежище в Праге. Миграционные службы разных стран периодически надевали на него наручники и изолировали на несколько часов — до выяснения всех обстоятельств. Просто потому, что его имя значилось в базах Международной организации уголовной полиции.

Не исключено, что по такому же сценарию задерживали и Аринича в Италии.

Сегодня Лоран Аринич не хочет общаться с журналистами и что-либо объяснять. Уехав в Польшу, он сделал свой выбор. Правильный он или нет — это уже другой вопрос...

## КОМПЕТЕНТНО

*Серийного убийцу Италия наверняка экстрадировала бы в Беларусь. А вот того же Аринича — вряд ли. И даже несмотря на то, что, как заявляет Генпрокуратура, в деле экс-гендиректора “Пинскдрева” нет и намека на политику.*

— Орган, ведущий расследование, с самого начала мог признать Аринича невыездным и тогда его просто не выпустили бы за границу, — *обращает внимание на некоторые нюансы бывший судья, представитель ОО “Белорусский Хельсинкский комитет”* ***Гарри Погоняйло.*** — Если бы он попытался нарушить подписку о невыезде, ему избрали бы иную меру пресечения. Другое дело, что некоторые просто не предприняли никаких мер для того, чтобы Лоран Аринич сегодня находился в Беларуси.

Что касается вопроса экстрадиции Аринича из Италии, то если у нас нет с этой страной договора о сотрудничестве по этому вопросу, могут даже и не рассматривать просьбу об экстрадиции. А если решат начать эту процедуру, то человек, в отношении которого она проводится, имеет право ее обжаловать, обращаться в международные организации, вплоть до Страсбургского суда с жалобой на незаконные действия, связанные с экстрадицией. Одним словом, это очень непростая и долгая процедура.

Вполне может быть, что одна из стран Евросоюза решила дать Лорану Ариничу убежище и не выдавать его Беларуси. В таком случае его вряд ли выдадут и другие страны Евросоюза. Поэтому такой человек может свободно передвигаться по территории Евросоюза.

А белорусская Генпрокуратура создает иллюзию бурной деятельности: мол, там, на Западе, такие бяки не выдают людей, совершивших на нашей территории преступления, такой-сякой этот Запад! Но многие страны Евросоюза, мотивируя причины невыдачи, заявляют о том, что в Беларуси в местах лишения свободы нередко происходят пытки, суды не действуют независимо и подчинены исполнительной власти. И эти моменты, кстати, указываются в официальных бумагах! Нам прямо говорят: наведите в этой сфере порядок, создайте условия, в том числе в местах лишения свободы, следственных изоляторах, организуйте независимую работу суда. Только вот об этих моментах наша прокуратура почему-то не говорит. Хотя стоило бы!..

**Марина КОКТЫШ.**

# З 1 верасня даражэе навучанне ў ВНУ

Пакуль эксперты разважаюць над тым, як павысіць якасць беларускай адукацыі, яе кошты безупынна растуць. Чарговае павышэнне адбудзецца на пачатку новага навучальнага года і перавысіць дакрызісныя лічбы.

Па словах чыноўнікаў Міністэрства адукацыі, плата за навучанне ў ВНУ павысіцца не больш як на 20 працэнтаў. Канкрэтную лічбу будуць вызначаць самі ВНУ ў залежнасці ад эканамічна абгрунтаваных затрат. Таксама паведмляецца, што кошт будзе дыферэнцавацца ў залежнасці ад формы навучання — дзённая ці завочная, а таксама ў залежнасці ад курса — напрыклад, на 1-м курсе ён можа быць вышэй, чым на 4-м ці 5-м.

Але ж 20 працэнтаў — гэта значнае падаражэнне. І ў большасці ВНУ кошт навучання дасягне, а то і перавысіць дакрызісныя тарыфы. Напрыклад, Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт ужо вызначыўся з будучай аплатай. З 1 верасня студэнт-першакурснік лячэбнага і педыятрычнага факультэтаў будзе вымушаны заплаціць за год 16 мільёнаў 400 тысяч рублёў, а стаматалагічнага факультэта 19 мільёнаў 150 тысяч. Па сённяшнім курсе — 1853 і 2163 долары адпаведна. Але ў 2010 годзе максімальная аплата навучання ў мінскім медуніверсітэце складала 5 млн 430 тыс. рублёў, альбо 1750 долараў. І што насцярожвае, чарговае павышэнне — не апошняе.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

# Правер свой пашпарт!

З 19 ліпеня ўступае ў сілу рэгламент Еўрапарламента і Савета міністраў ЕС, згодна з якім збольшага змяняюцца патрабаванні Шэнгенскага памежнага кодэкса ў дачыненні да грамадзян трэціх краін, да якіх адносіцца і Беларусь. Цяпер для ўезду на тэрыторыю Шэнгенскай зоны беларусы павінны прад'явіць дакументы, якія былі выдадзены не больш за 10 гадоў таму. Між іншым, амбасады краін ЕС не будуць адкрываць шэнгенскія візы беларусам, тэрмін прыдатнасці пашпарту якіх дасягнуў 10 гадоў.

ЖАХ!

# І ўсё ж такі забілі...

***Больш за два тыдні шукалі жанчыну, якая 3 ліпеня паехала на машыне за ягадамі і знікла. Учора яе знайшлі мёртвай.***



У Мінску па ўсім горадзе былі развешаны аб'явы аб пошуку жанчыны: *“Міліцыя шукае Таццяну Іванаўну Слонімскую, якая 3 ліпеня, прыблізна ў 13.30, паехала за ягадамі на сваёй машыне “Мазда 3” сіняга колеру (дзяржаўны нумар 6733 КХ-7) ад свайго дома ў пасёлку Стайкі Мінскага раёна і знікла. Пры сабе яна мела два тэлефоны, зараз яны не адказваюць. Невядома і месца знаходжання яе аўта. Жанчыне 50 гадоў”.*

Два тыдні жанчыну шукалі міліцыя, спецыяльны атрад “Ангел”... Да людзей у сацыяльных сетках звярнуліся сын і дачка Таццяны Слонімскай, прасілі: “Дапамажыце знайсці маму!” За любую інфармацыю, якая дазволіла б знайсці жанчыну, гарантавалася ўзнагароджанне ў 30 мільёнаў рублёў. Зрэшты, я не ведаю, ці знайшоўся чалавек, які б узяў грошы ў такой сітуацыі.

Учора зранку я звязаўся па тэлефоне з Ганнай, дачкой зніклай жанчыны. Распавёў, што мы таксама хацелі б даць фотаздымкі яе маці ў газеце, пацікавіўся, ці ёсць навіны ў гэтай справе...

— Ужо не трэба даваць фотаздымкі, — скрозь слёзы адказала яна.

**— Нешта змянілася?**

— Мы не маем права агалошваць інфармацыю.

*“Міліцыя папрасіла нас прыпыніць усе мерапрыемствы па пошуку Таццяны Слонімскай*, — дадалі мне ў пошукавым атрадзе “Ангел”. — *Праводзяцца аператыўныя дзеянні, але гэта інфармацыя закрытая. Мы давалі падпіску аб неразгалошванні”.*

Учора ж у другой палове дня стала вядома, што жанчыну знайшлі мёртвай.

— У ходзе папярэдняга расследавання 18 ліпеня каля вёскі Дварэц Мінскага раёна знайшлі труп жанчыны з нажавымі раненнямі, — паведамілі ва ўпраўленні Следчага камітэта па Мінскай вобласці. — Мяркуецца, што гэтая жанчына і ёсць Таццяна Слонімская. Ужо затрымалі і асоб, якія падазраюцца ў здзяйсненні забойства. Гэта жыхары Мінска ад 20 да 25 гадоў. Высветлілася, што жанчыну забілі, каб завалодаць яе машынай. Каб схаваць сляды злачынства, труп закапалі. Машыну прадалі затым праз інтэрнэт у Расію. Зараз вядома, дзе аўто знаходзіцца. Узбуджана крымінальная справа.

**Алесь СІВЫ.**

ЧУЛІ?

# Авіярэйсаў у Кіеў стане больш

З 27 ліпеня Нацыянальная авіякампанія “Белавія” павялічвае частату палётаў ва ўкраінскую сталіцу. Дадатковыя рэйсы будуць ажыццяўляцца ў суботу і нядзелю вечарам пераважна на самалётах CRJ-100/200.

“Павелічэнне частаты выканання рэйсаў звязана з павышэннем попыту на авіяпералёты паміж Мінскам і Кіевам у людзей, якія жадаюць эканоміць час у дарозе, у тым ліку ў прадстаўнікоў бізнес-патоку Беларусі і Украіны, — зазначаецца ў паведамленні “Белавія”. — Апрача таго, чакаецца рост колькасці пасажыраў, якія падарожнічаюць з Кіева праз Мінск па сетцы маршрутаў “Белавія”. Таксама палепшацца стыкоўкі беларускіх рэйсаў у кіеўскім аэрапорце Барыспаль з украінскімі авіяперавозчыкамі, што дазволіць хутчэй дабрацца да любога аэрапорта Украіны”.

“Белавія” таксама працягвае выконваць летам рэгулярныя рэйсы з Мінска ў Сімферопаль.

ПОДРОБНОСТИ

*Александр МРОЧЕК, директор РНПЦ «Кардиология»:*

# «Такие ситуации возникают во всех клиниках мира»

*Руководитель Республиканского научно-практического центра “Кардиология” сам приехал в редакцию. “Хотел бы пояснить ситуацию”, — заявил Александр Мрочек. Дело в том, что в прошлом номере “Народной Воли” мы рассказывали о том, что в РНПЦ сократилось число выполняемых операций на сердце, некоторые пациенты паникуют, боясь умереть, не дождавшись операции.*

— Оптовые закупки расходных материалов — это удел всех клиник мира, — заметил Александр Геннадьевич. — Оптом всегда дешевле. Сегодня наш центр должен иметь порядка полутора тысяч расходников. И клапаны сердца, которые мы устанавливаем нашим пациентам — жителям Беларуси, тоже закупаются оптом. К счастью, они отечественного производства. Клапаны выпускает ГНПО “Планар”. К слову, это совместная разработка специалистов РНПЦ “Кардиология” и инженеров ГНПО “Планар”.

Потребность в клапанах действительно существует. Пациентов, которым требуется операция по замене клапанов, много. Но, как правило, эти пациенты делятся на две группы: те, кому такая операция необходима по жизненным показаниям и срочно, и те, кто может быть прооперирован позже.



Мнение хирурга по этому поводу всегда такое: лучшей операцией всегда является та, которой удалось избежать. Безусловно, предпочтительнее восстановить естественный клапан пациента, это дает лучшие результаты. Но, к сожалению, это не всегда возможно, есть ситуации, когда приходится заменять клапан и операцию откладывать нельзя. И в случае, когда на складе имеется ограниченное количество клапанов, рассматриваются только экстренные ситуации. Очередь тех пациентов, которые могут подождать, оттягивается на будущее время. Но в целом, если пациенту нужна срочная операция, его вызывают в центр либо он сам обращается. Не было случая, чтобы экстренный больной не был прооперирован. Например, у пациента расслаивающаяся аневризма аорты. Что, думаете, в центре не нашли бы клапана?! Конечно же, они есть, и линейка размеров клапанов есть.

Действительно, когда сотрудники центра говорят пациенту, что его очередь немножко отодвинута, потому что в данный момент на складах ограниченное количество клапанов, он беспокоится. Но это жизненная ситуация, длящаяся в течение очень короткого времени. И такие ситуации возникают во всех клиниках мира. И если бы пациент захотел сегодня прооперироваться в Германии, ему тоже пришлось бы подождать, и его тоже поставили бы на очередь, несмотря на то, что там доступность высокотехнологичной медицинской помощи выше.

**— Александр Геннадьевич, на ваш взгляд, насколько оправдано решение, что граждане Беларуси не могут за свои деньги купить клапан? Возможно, это в какой-то степени разрядило бы ситуацию: не хочет человек стоять в очереди на бесплатную операцию — пожалуйста, пусть платит и оперируется вне очереди…**

— Это не совсем так. Сейчас Министерство здравоохранения позволило закупать клапаны за средства пациентов.

Пациент должен написать соответствующее заявление на имя директора, затем заключается договор, и наши снабженцы закупают клапан у компании-производителя, которая торгует ими в розницу. Одна из ведущих мировых фирм, производящих клапаны, — американская “St. Jude Medical Inc.” — такую возможность предоставляет.

Как правило, во время операции хирург должен иметь под рукой клапаны трех размеров. Для чего? Потому что во время операции может оказаться, что нужен не тот размер клапана, который был определен различными методами исследования до операции. Но пациент оплачивает только тот клапан, который ему установлен. Также должен заметить, что и за саму операцию пациент не платит, только за клапан.

**— Сколько стоит клапан?**

— В зависимости от позиции клапана от 800 до 1500 долларов.

**— А белорусские клапаны за свои деньги пациенты могут купить?**

— Нет, белорусские клапаны закупаются оптом за бюджетные деньги, их гражданам нашей страны ставят бесплатно в порядке очереди.

**— Сегодня буквально во всех областных центрах выполняются неотложные вмешательства у больных с сердечно-сосудистыми заболеваниями. Почему тогда в вашем центре очередь не уменьшается?**

— Буквально на днях было большое совещание в Могилеве, и там обсуждались эти вопросы. Сейчас речь идет о том, чтобы увеличить объемы кардиоопераций в областных центрах. Тогда мы сможем ликвидировать или максимально сократить плановую очередь на операции по замене клапанов. Наш РНПЦ даже при наших возможностях, при полной загрузке пяти операционных не справляется. Но проблема в том, что областные центры испытывают дефицит подготовленных специалистов с достаточным опытом проведения операций на клапанах сердца. Современным оборудованием областные центры и кардиологические отделения оснащены, а вот опытных кардиохирургов не хватает. И то, что в областях недостаточно выполняется операций по замене клапанов, связано именно с подготовкой кадров. И мы сейчас устраняем этот пробел. Например, что касается Минской области, то специалисты РНПЦ каждый день оперируют в Минской областной больнице, помогая осваивать сложные кардиологические операции. Научиться можно только тогда, когда работаешь рядом с профессиональным хирургом.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

МАДЭРНІЗАЦЫЯ

*Ірына СУХІЙ:*

# Мы маем шанцы зменшыць шкоду, якую нанясе кітайскі парк

***Смалявіцкі райвыканкам праводзіць грамадскія абмеркаванні праекта “Дэталёвы план тэрыторыі першачарговага асваення Кітайска-Беларускага індустрыяльнага парку”. Яшчэ не расстаўлены кропкі над “і” ў першым этапе грамадскіх абмеркаванняў, вынікі якога аспрэчваюць эколагі, але ўлады спяшаюцца прыступіць да асваення кітайскіх грошай.***

Да якіх наступстваў можа прывесці такая спешка? Пра гэта разважае кіраўнік ГА “Экадом” Ірына Сухій.

**— “Экадом” і вашы калегі з таварыства “Зялёная сетка” патрабуюць ад пракуратуры Мінскай вобласці праверыць законнасць дзяржаўных экспертыз праекта “Генеральны план Кітайска-Беларускага індустрыяльнага парку”. Што менавіта і чаму выклікае ў вас сумневы?**

— Напрыклад, той факт, што экалагічная экспертыза праведзена раней за будаўнічую: па заканадаўстве ўсё з дакладнасцю да наадварот.

Мы своечасова, з захаваннем усіх тэрмінаў падалі дакументы аб правядзенні грамадскай экалагічнай экспертызы, аднак яшчэ раней камітэт аховы прыроды Мінскай вобласці зрабіў сваю, а гэта таксама супраць правілаў.

Не ведаю, куды і навошта спяшаліся чыноўнікі. Падкрэслю: усе спецыялісты згодны з намі — занадта шмат неадпаведнасцяў і парушэнняў у генплане, занадта шмат недапрацовак і праблем.

**— Якія самыя відавочныя парушэнні выявілі эксперты?**

— Мы рэкамендавалі разгледзець альтэрнатыўную тэрыторыю для размяшчэння Кітайска-Беларускага індустрыяльнага парку. Для гэтага ёсць важкія падставы.

Дакумент “Генеральны план Кітайска-Беларускага індустрыяльнага парку” змяшчае інфармацыю ў вельмі агульным выглядзе, якую немагчыма выкарыстоўваць для дэталёвай ацэнкі ўздзеяння на навакольнае асяроддзе. Навідавоку парушэнне патрабаванняў дзейнага заканадаўства, у тым ліку — прэзідэнцкага ўказа №253.

Мы настойваем, што неабходна выключыць тэрыторыю рэспубліканскага біялагічнага заказніка “Валмянскі” і мясцовага біялагічнага заказніка “Маяк” з межаў зямельнага ўчастка, на якім плануецца размяшчэнне індустрыяльнага парку. Генплан уключае комплекс мерапрыемстваў па абыходжанні з адходамі. Пры станоўчых горадабудаўнічых умовах (транспарт, інжынерныя камунікацыі, блізкасць аэрапорта, водазабор) маецца шэраг экалагічных праблем. Напрыклад, высечка 2756,0 га элітнага лесу парушыць асяроддзе аздараўлення Мінска.

Рэалізацыя генплана немагчыма праз супярэчнасці заканадаўству пры дзейных праектах водаахоўных зон і прыбярэжных палос водных аб'ектаў, пры існым мэтавым прызначэнні земляў, а таксама ў межах зоны адпачынку мясцовага значэння “Вясёлка”.

На падставе ўсяго гэтага мы не рэкамендуем зацвярджаць генеральны план КБТП.

**— Пакуль эколагі ставяць пад сумнеў вынікі першага этапу абмеркаванняў, Смалявіцкі райвыканкам пачаў ужо грамадскія абмеркаванні праекта…**

— Працэс сапраўды пайшоў далей, хоць не расстаўлены кропкі над “і” ў першых слуханнях. Мы зараз спрабуем паўплываць на сітуацыю, таму і звярнуліся ў пракуратуру і паведамілі пра парушэнне парадку правядзення экспертыз.

З іншага боку, заявілі аб правядзенні незалежнай экалагічнай экспертызы “Дэталёвага плана тэрыторыі першачарговага засваення Кітайска-Беларускага індустрыяльнага парку”.

Некаторыя не разумеюць: калі мы — праціўнікі гэтага праекта ў цэлым, чаму мы ўвязваемся ў грамадскія абмеркаванні кожнага этапу? Стаўшы ў позу, крычучы на кожным скрыжаванні, што мы супраць кітайскага парку, не спрабуючы адстойваць сваю пазіцыю на кожным этапе, толькі пакажам сваю слабасць. Калі паслядоўна прыводзіш доказы парушэнняў, у канчатковым выніку можна паўплываць на будаўніцтва тэхнапарку.

Беларусь з'яўляецца ўдзельнікам Орхускай канвенцыі, якая прадугледжвае ўдзел грамадскасці пры прыняцці рашэнняў. І Беларусь павінна гэтаму вучыцца.

**— Улада да эколагаў не прыслухоўваецца, а падняць грамадскасць на вырашэнне праблем, якія наўпрост не звязаны з дабрабытам, немагчыма. Вы не спрабавалі для вырашэння праблемы Кітайска-Беларускага парку выкарыстоўваць механізмы Еўрапейскага дыялогу аб мадэрнізацыі, напрыклад?**

— Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі — стратэгічны інструмент, там ніхто не будзе разбірацца з канкрэтным кітайскім паркам. ЕДМ працуе над стратэгічнымі планамі развіцця.

Калі ў працэсе нашых дзеянняў набярэцца дастаткова матэрыялу для падачы скаргі ў Камітэт па адпаведнасці Орхускай канвенцыі, то мы пададзім скаргу. Але да таго моманту, калі гэтую скаргу разгледзяць і вынесуць рэкамендацыі, парк ужо пабудуюць.

Аднак гэта трэба рабіць. Пасля разбораў адносна будаўніцтва Астравецкай АЭС Камітэт па адпаведнасці вынес рэкамендацыі беларускаму ўраду па паляпшэнні рэалізацыі Орхускай канвенцыі. Цяпер распрацоўваецца пастанова Саўміна аб удзеле грамадскасці ў выпрацоўцы экалагічна значных рашэнняў. У гэтым нарматыўным акце будзе канкрэтна прапісана: які чыноўнік, у які момант і што павінен зрабіць. Хоць Орхуская канвенцыя з'яўляецца дакументам прамога дзеяння, якую павінны выконваць без усялякіх “удакладняльных” нарматыўных актаў унутры краіны, дзяржслужбоўцы не маюць канкрэтнай працэдуры. Пакуль няма дакладных указанняў, канвенцыя не працуе.

Урад распрацоўвае такую пастанову, мы, на жаль, яе пакуль не бачылі. Хоць, па ідэі, павінны таксама ўдзельнічаць у распрацоўцы — вось чаму вучыць нас практыка еўрапейскай мадэрнізацыі былых сацыялістычных краін. І ўсё ж спадзяюся, што пастанова будзе добрай, паколькі да яе распрацоўкі прыцягваліся эксперты ПРААН.

**— Значыць, колькі б эколагі ні абураліся, улады пабудуюць кітайскі парк так, як яны хочуць?**

— Мы маем шанцы зменшыць шкоду, якую ён нанясе. Калі нагогул не звяртаць увагі на праблему, кітайцы ўсё зробяць па-свойму. Пільная ўвага грамадскасці прымушае паводзіць сябе больш сур'ёзна. І кітайскія інвестары, і беларуская адміністрацыя разумеюць: за імі сочаць — гэта яшчэ адзін урок Еўрапейскага дыялогу аб мадэрнізацыі.

**— Улады ўвесь час ігнаруюць эколагаў. Пра іх згадваюць падчас маштабных кампаній, такіх як будаўніцтва Астравецкай АЭС, і пачынаюць затыкаць рот. Можна змяніць такую практыку ў прынцыпе?**

— Улады ігнаруюць не толькі нас: па сутнасці, Міністэрства прыродных рэсурсаў — гэта міністэрства трэцяй або чацвёртай катэгорыі. Беларускія ўлады да экалогіі ў цэлым ставяцца па рэштковым прынцыпе — я думаю, у гэтым праблема. Дарэчы, па некаторых пазіцыях у нас з Мінпрыроды цалкам аднолькавыя пункты гледжання, але міністэрства таксама не можа абараніць прынцыпы аховы навакольнага асяроддзя ў Саўміне. Мінпрыроды там фактычна супраць усіх міністэрстваў.

**Сямён КУТКАВЕЦ.**

